Адна з важнейшых працэдур выбараў — гэта падлік, таму ён павінен быць максімальна празрыстым. Сачыць за гэтым могуць назіральнікі ад грамадзян, палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў

Назіральнік павінен знаходзіцца ў такім месцы, якое дазваляе бачыць змест кожнага бюлетэня

Назіральнік і іншыя аўтарызаваныя асобы, якія знаходзяцца на ўчастку, маюць права весці фота- і відэазапіс працэсу падліку

Падлік галасоў праводзіцца адным з сябраў камісіі, які агучвае і дэманструе ўсім сябрам камісіі і назіральнікам кожны бюлетэнь

Кожная скрыня лічыцца асобна ў наступнай паслядоўнасці: скрыня з датэрміновага галасавання → пераносная скрыня → з галоўнага дня галасавання

Пасля падліку пратакол вывешваецца на бачнае месца для агульнага азнаямлення



## ЯК ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ




Хочаш паглядзець, як лічаць галасы на тваім участку?
Прыходзь і назірай разам з намі!

eotp.info
vybory2014.eotp.info




Камісія ставіць назіральніка далёка ад стала ці ў тым месцы, з якога не бачны працэс падліку



Падлічваюць галасы адначасова некалькі сябраў камісіі. Пры гэтым змест бюлетэня не агучваецца і не дэманструецца

## ЯК ГЭТА БЫВАЕ



Магчымасць ажыццяўлення фота- і відэазапісу залежыць ад рашэння камісіі. Часцей за ўсё камісія забараняе весці здымкі



Вельмі часта бюлетэні з усіх трох скрыняў высыпаюць у адну кучу і падлічваюць разам




Пратакол не вывешваюць для агульнага азнаямлення



Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка

Хочаш паглядзець, як лічаць галасы на тваім участку? Прыходзь і назірай разам з намі!

eotp.info

vybory2014.eotp.info